
ШЛЯХІ
КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ
XVIII
1933 Г.
ПАД КІРАЎНІЦТВАМ
КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТ
І ЯЕ ЛЕНІНСКАГА ЦК НА
ЧАЛЕ З Т. СТАЛІНЫМ—
НАПЕРАД ДА ПАБУДОВЫ
ГРАМАДЗТВА
№ 1

# СССР пераможна ажыцьцяўляе задачу—„дагнаць і перагнаць“

## Урала-Кузьнецкі камбінат — буйнейшая перамога генэральнай лініі партыі

Урала-Кузьнецкі камбінат знаходзіцца ў гэаграфічным цэнтры СССР, на аднолькавай адлегласьці ад яго ўсходніх і заходніх граніц. Па сваёй тэрыторыі—6 млн. кв. кілёмэтраў—УКК перавышае ўсе эўрапэйскія дзяржавы (бяз СССР), разам узятыя.

Пяць-шэсьць дапатопных заводаў на Урале, некалькі шахт у Кузбасе, а паміж імі на тысячы кілёмэтраў—пустынныя раўніны, вялікі шлях для катаржнікаў і ссыльных—вось мінулае Уралу і Сібіры.

Але кандальны звон смутнага сібірскага тракту зьмяніўся грукатам мэталюргічных, машынабудаўнічых заводаў, задымілі трубы электрастанцый і хімкамбінатаў. Драўляная Сібір атрымала свой мэталь з Кузьнецкага гіганта. Пушчаны ўжо дзьве домны, два мартэны, блюм нг, рэйкапракатны стан, коксахімічны завод, электрастанцыя. Пабудаваны 23 шахты ў Кузбасе магутнасьцю ў 10 млн. *т*. Будуюцца Навасібірскі завод горнага абсталяваньня і завод тэкстыльных машын. Томскі завод дарожных машын. Меланжовы камбінат у Барнауле на 895 тыс. кавалкаў у год.

Другая вугальна-мэталюргічная база на Усходзе, не прадугледжаная пяцігадовым плянам,—створана гераічнымі патугамі рабочае клясы СССР па ініцыятыве тав. Сталіна.

## 4 новых шахты

У канцы сьнежня ў Кізілаўскім рудаўпраўленьні (Урал) уступаюць у строй 4 новых шахты, вытворчасьцю ў 550 тыс. *т* вугалю ў год.

## 50250 трактароў у год

Першай пяцігодкай меркавалася выпусьціць 91.000 трактароў. На справе-ж за чатыры годы пяцігодкі выпушчана 105.850 трактароў.

Па выпуску трактароў у 1932 г. СССР дагнаў ПАЗШ—выпушчана 50250 трактароў.

## 15 тыс. тон вугалю звыш пляну

Шахта „Праходка 10“ Пятроўскага рудаўпраўленьня (Данбас) датэрмінова выканала гадавы плян здабычы вугалю ў 200 тыс. *т*. На 17-е сьнежня 1932 г. шахта выдана „на-гара“ 15 тысяч *т* вугалю звыш гадовага пляну.

## СССР заняў першае месца ў сьвеце па будаўніцтву камбайнаў

Першы савецкі камбайн выпушчан Запароскім заводам сельгасмашынбудаўніцтва „Камунар“ 18 верасьня 1929 г. За гэтым „Камунар“ прыступіў да масавай вытворчасьці камбайнаў. У 1930 г. было выпушчана 347 машын.

У 1931 годзе камунараўцы далі сацыялістычнай сельскай гаспадарцы 3545 камбайнаў.

За 11 месяцаў 1932 г. савецкія заводы далі 9.346 камбайнаў, „Камунар“ даў 5.475 камбайнаў.

Саратаўскі завод — 1.608 і Ростсельмаш—2.263 камбайнаў.

Усяго савецкімі заводамі з 1930 г. выпушчана 13.500 камбайнаў. Зараз мы занялі першае месца ў сьвеце па выпуску гатых машын.

## 4,5 мільярдаў квч электраэнэргіі—сацыялістычнай прамысловасьці

Шатурская ГЭС імя Леніна 10 сьнежня 1932 г. у 9 гадзін раніцы датэрмінова скончыла выкананьне свайго пяцігадовага пляну, адпусьціўшы сацыялістычнай прамысловасьці Масквы больш 2,5 мільярдаў квч. электраэнэргіі.

Станцыя прыступіла да выкананьня пляну 1933 г. у 840 мільёнаў квч.

## Новая якасная сталь

У Мартэнаўскім цэху Кузьнецкага заводу пачата вытворчасьць новых сартоў якаснай сталі. 3 сьнежня ўначы другая печ выдала першую плаўку бяскрэмністай кіпучай сталі.

Кіпучая сталь шырока прымяняецца ў прамысловасьці, значна дзешавей звычайнай мягкай сталі і варыцца бяз феррасіліцыя—вельмі дарагога і дэфіцытнага сплаву.

## 5 мельнічных камбінатаў

На лініі Турксіба будуецца 5 мельнічных камбінатаў, 4 з іх — на ст. Алейскай, у Шосьпялісе, у Рубцове і ў Алма-Алта—зданы зараз у эксплёатацыю.

Мелькамбінаты Турксіба складаюцца з элеватараў магутнасьцю у сярэднім каля 8.500 *т* кожны і млыноў вытворчасьцю ад 100 да 200 *т* у суткі.

## Савецкія легкавыя аўтамабілі

9 сьнежня 1932 г. з галоўнага канвэеру аўтазаводу імя Молатава (г. Горкі) зьняты першыя шэсьць легкавых аўтамабіляў. Усе дэталі для лёгкага аўтамабіля „Газ“ асвоены і зроблены цалкам з савецкіх матар'ялаў. Тып аўтамабіля—адкрыты фаэтон з будкай, якая складаецца.

---

На фабрыцы „Скараход“ (Ленінград) уступіў у строй новы абутковы цэх, які будзе выпускаць штомесячна 4 тысячы пар абутку высокай якасьці.

---

У пачатку студзеня 1933 г. пачнуць працаваць усе асноўныя цэхі новага Луганскага паравозабудаўнічага заводу. Праэктная вытворчасьць Луганскага гіганта разьлічана на выпуск 1.080 магутных паравозаў у год.

---

XVIII

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

1 1933 СТУДЗЕНЬ



# ШЧЫЛЬНЕЙ РАДЫ ВАКОЛ ПАРТЫІ ЛЕНІНА! НАПЕРАД ДА ПАБУДОВЫ САЦЫЯЛІЗМУ!

## Усе творчыя сілы рабочых, калгасьнікаў і ўсіх працоўных на выкананьне пастаўленых партыяй задач другой пяцігодкі

Пад непахісным кіраўніцтвам камуністычнай партыі і яе Ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным мы пераможна завяршылі першую пяцігодку і ўступілі ў другую, з яшчэ больш грандыёзнымі плянамі па будаўніцтву сацыялізму ў нашай краіне—пяцігодку.

Народна-гаспадарчы плян першай пяцігодкі выканан за 4 гады, а па некаторых галінах сацыялістычнага будаўніцтва пяцігадовы плян выканан за 3—2 з паловай гады.

**„Посьпехі першай пяцігодкі—посьпехі палітыкі індустрыялізацыі і значыць, палітыкі ўздыму цяжкай індустрыі, вытворчасьці сродкаў вытворчасьці ў першую чаргу. Гэтыя посьпехі характарызуюцца тым, што мы маем к сучаснаму моманту ўласную базу для завяршэньня тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі. Для справы далейшага росту сацыялізму ў СССР, гэты факт мае рашаючае значэньне“** (Молатаў). Пабудаваныя ў першую пяцігодку нябачаныя ў сьвеце гіганты,—Магнітагорскі і Кузьнецкі мэталюргічныя заводы, Сталінградзкі, Харкаўскі трактарныя гіганты, Днепрабуд, Днепрасталь, Урала-Кузьнецкі камбінат, Ніжага одзкі аўтамабільны завод, Саратаўскі завод камбайнаў, Казакстанскі медны камбінат і рад іншых заводаў,—лепш за ўсё характарызуюць наколькі мы ўзрасьлі ў галіне сучаснай тэхнікі. Посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ўсё больш забясьпечваюць эканамічную самастойнасьць Савецкага Саюзу ў адносінах да капіталістычнага сьвету.

Аграмаднейшых дасягненьняў у першую пяцігодку мы дабіліся і ў сельскай гаспадарцы, якія знаходзяць сваё выражэньне ў посьпехах калектывізацыі дробных бедняцка-серадняцкіх гаспадарак, у будаўніцтве буйных саўгасаў, у будаўніцтве машына-трактарных станцый. Мы ўжо дабіліся таго, што і ў сельскай гаспадарцы пануючае становішча занялі сацыялістычныя формы. Калгасамі ахоплена па СССР звыш 61 проц. сялянскіх гаспадарак. У важнейшых сельска-гаспадарчых раёнах Саюзу завершана ўжо ў асноўным суцэльная калектывізацыя і ліквідацыя кулацтва як клясы.

У выніку ўсяго гэтага пасеўная плошча па СССР ўзрасла, у параўнаньні з даваенным часам на 30 мільёнаў гэктараў; па Савецкай Беларусі—пасеўная плошча павялічылася на 1 мільён 240 тысяч гэктар. Нашы саўгасы і калгасы зьяўляюцца асноўнымі вытворцамі зярна і сырцу. Калгаснае сялянства ператварылася ў цэнтральную фігуру земляробства. Калгасьнік стаў моцнай апорай партыі і ўлады на вёсцы. Савецкі Саюз стаў краінай самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце, якая з кожным годам усё больш узбройваецца складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі. Ленінскае пытаньне „хто-каго?“ вырашана канчаткова і беспаваротна ў карысьць сацыялізму, як у горадзе, так і ў вёсцы. Пяцігодка стварыла новы тып чалавека, імя якому—**ударнік**.

Завяршэньне першай пяцігодкі супала якраз з гістарычнай датай дзесяцігодзьдзем СССР і чатырнаццацігодзьдзем БССР. Гэтая дата знамянуе сабою перамогу ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі. Беларусь,—з краіны адсталай, цёмнай, жабрацкай, прыгнечанай царызмам,—ператварылася ў краіну суцэльнай пісьменнасьці; растуць заводы—гіганты; працоўнае сялянства аб'ядноўваецца ў калгасы і калектыўнай працай, пад кіраўніцтвам КП(б)Б будуе новае жыцьцё; на сацыялістычных палёх БССР, працуюць тысячы трактароў і складаных сельска-гаспадарчых машын.

Усіх гэтых посьпехаў мы дасягнулі дзякуючы правільнасьці генэральнай лініі нашай партыі; дзякуючы творчаму энтузіязму рабочае клясы, калгасьнікаў і ўсіх працоўных па выкананьні пастаўленых партыяй задач; у выніку жорсткай клясавай барацьбы з кулаком і барацьбы з яго агентамі—правымі і „левымі“ апартуністамі.

XVII канфэрэнцыя ЎсеКП(б) паставіла аграмаднейшыя задачы для другой пяцігодкі. „Асноўнай палітычнай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўнае зьнішчэньне прычын, якія параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю, і перамаганьні перажыткаў капіталізму ў эканоміцы і сьвядомасьці людзей, ператварэньня ўсяго пра-

цоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага сацыялістычнага грамадзтва".

Поўная ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў у вёсцы—гэта значыць ажыцьцявіць лёзунг партыі суцэльнай калектывізацыі і на гэтай аснове ліквідацыі кулацтва, як клясы. Дасягнуць гэтага можна толькі ў рашучай і няпрымірымай барацьбе з кулаком і яго агентамі—правымі і „левымі" апартуністамі і ў барацьбе за сацыялістычнае перавыхаваньне калгасьнікаў, за ўмацаваньне пралетарскай дысцыпліны ў калгасах, за рашучае палепшаньне арганізацыі працы калгасьнікаў, за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. Арганізаваць рабочыя масы і ўсё працоўнае сялянства на выкананьне ўсяго гэтага—галоўнейшая задача партыі на вёсцы.

Для сельскай гаспадаркі ў другой пяцігодцы XVII Усесаюзная партканфэрэнцыя паставіла задачу: „Ажыцьцявіць завяршэньне сацыялістычнай рэканструкцыі з тым, каб машына-трактарныя станцыі ахапілі ўсе калгасы і ў асноўным завяршылі мэханізацыю сельска-гаспадарчай вытворчасьці".

Павышэньне ўраджайнасьці зьяўляецца цэнтральнай задачай у другой пяцігодцы ў галіне сельскай гаспадаркі. Мы маем аграмаднейшыя магчымасьці для павышэньня ўраджайнасьці нашых палеў. Аднак, намі ня выкарыстаны яшчэ ўсе магчымасьці і перавагі буйнага сацыялістычнага земляробства для вырашэньня гэтай важнейшай задачы ў сельскай гаспадарцы. Таму, „трэба пераключыць работу ўсіх партыйна-савецкіх, камсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых у галіне сельскае гаспадаркі,—у напрамку павышэньня ўраджайнасьці па ўсіх бяз выключэньня культур, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант" (з пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР).

Сьнежаньскі пленум (1932 год) ЦК КП(б)Б намеціў канкрэтныя мерапрыемствы па павышэньні ўраджайнасьці і арганізацыі надыходзячай веснавой сяўбы. Пастанова пленуму, якая зьмешчана ў гэтым нумары нашай часопісі, зьяўляецца баявой праграмай усіх партыйных, савецкіх і камсамольскіх арганізацый на вёсцы. На выкананьне гэтай праграмы трэба мабілізаваць масы калгасьнікаў і ўсё працоўнае сялянства.

Клясавы вораг—кулак канчаткова не дабіт яшчэ. „Гэта азначае, што і ў далейшым яшчэ нязьбежна абвастрэньне клясавай барацьбы ў асобныя моманты і асабліва ў асобных раёнах і на асобных вучастках сацыялістычнай будоўлі" (З рэзалюц. XVII партканфэрэнцыі). Рэшткі кулацтва і ўсе клясава-варожыя элемэнты ўсімі мерамі імкнуцца арганізаваць сабатаж і супраціўленьне ў справе барацьбы за сацыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, за пасьпяховае ажыцьцяўленьне пастаўленых партыяй задач па будаўніцтве сацыялізму ў нашай краіне.

Задача кожнай партыйнай ячэйкі, кожнага ў асобку камуніста:—**павысіць клясавую пільнасьць!** Рашучая і непрымірымая барацьба з кулаком і яго агентурай!

**„Неабходна правесьці рашучую ачыстку партыйных арганізацый ад усіх разлажыўшыхся**



Асінторф. Брыгада № 4. Вытворчае заданьне перавыконвае, паказвае лепшыя прыклады ўдарнай работы.

**камуністаў, якія фактычна ператварыліся ў простых агентаў клясавага ворага ў радох партыі, зрасьліся з кулацтвам і іншымі клясава-варожымі элемэнтамі, ад усіх тых, якія маюць партбілеты ў кішэні, але даўно ўжо перарадзіліся і на справе парвалі з партыяй" (з пастановы сьнежаньскага (1932 г.) пленуму ЦК КП(б)Б.**

Намечаныя партыяй задачы для другой пяцігодкі грандыёзны. Яны патрабуюць максымальнай напружанасьці сіл і энэргіі рабочае клясы, калгасьнікаў і ўсіх працоўных краіны. Але, няма ніякага сумненьня ў тым, „што асноўныя заданьні другой пяцігодкі будуць ня толькі выкананы, але і перавыкананы, што адпаведна будзе забясьпечана сапраўднае канкрэтнае гаспадарчае кіраўніцтва і рашучая барацьба з бюракратызмам з боку ўсіх арганізацый рабочае клясы, што неабходнае для ажыцьцяўленьня задач другой пяцігодкі падняцьце вытворчасьці працы будзе забясьпечана працоўнымі СССР, што рады ўдзельнікаў сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва будуць расьці з кожным днём". Надыходзячая чыстка партыі, якая намечана Цэнтральным Камітэтам УсеКП(б) яшчэ больш умацуе партыйныя рады, яшчэ шчыльней згуртуе вакол Ленінскай партыі мільённыя масы працоўных на бальшавіцкае ажыцьцяўленьне задач будаўніцтва сацыялізму ў нашай краіне.

**Рабочыя, калгасьнікі і ўсе працоўныя шчыльней шэрагі вакол партыі бальшавікоў і яе Ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным! Шырэй сацспаборніцтва і ўдарніцтва! Усе сілы на завяршэньне дзяржаўных загатовак!**

**Наперад да выкананьня грандыёзных работ другой пяцігодкі!**

---

**„Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі зьяўляецца завяршэньне рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі, стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі" (з рэз. XVII канфэрэнц. УсеКП(б))**

Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б—

# БАЯВАЯ ПРАГРАМА РАБОТ

## партыйных, савецкіх і камсамольскіх арганізацый на вёсцы

**Толькі шырокай мабілізацыяй калгасных мас і працоўных аднаасобнікаў, у бязьлітаснай барацьбе з клясава-варожымі элемэнтамі і рашучым ачышчэньнем партыйных арганізацый ад усіх разлажыўшыхся, зросшыхся з кулаком камуністых, будзе з посьпехам выканана важнейшая пастанова пленуму ЦК КП(б)Б.**

### Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні пастаноў ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб павышэньні ўраджайнасьці, аб пляне і арганізацыі веснавой сяўбы ў 1933 г.

Пастанова пленуму ЦК КП(б)Б (сьнежань 1932 г.)

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае буйнейшыя посьпехі ў рэконструкцыі сельскай гаспадаркі БССР, якія дасягнуты ў выніку пасьлядоўнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі. На аснове росту калгасаў і саўгасаў і ўкараненьня ў вялізарных разьмерах машыннай тэхнікі, калгасы і саўгасы БССР у 1932 г. засеялі 60 проц. усёй пасеўнай плошчы, машынаўзброенасьць сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі БССР павялічылася за апошнія 4 гады ў 4 разы. Арганізавана 57 МТС. На базе росту саўгасаў і калгасаў пасеўная плошча БССР ў параўнаньні з даваенным часам павялічылася на 1240 тысяч *га*.

Такім чынам, на аснове гэтых посьпехаў завершана першая стадыя ўздыму сельскай гаспадаркі— найбольшае пашырэньне пасеўных плошчаў. У галіне сельскай гаспадаркі перад партыйнымі, савецкімі і зямельна-калгаснымі арганізацыямі паўсталі новыя задачы, якія вызначаюцца наступным указаньнем ЦК УсеКП(б) і ўраду: „наступіў час, калі ад росту гаспадаркі ў шырыню, шляхам павялічэньня пасеўных плошчаў, неабходна павярнуць да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці, як галоўнай і цэнтральнай задачы у галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця“.

Барацьба за павышэньне ўраджайнасьці і якасьці сельска-гаспадарчай вытворчасьці шляхам укараненьня і аўладаньня агратэхнікай, ва ўмовах поўнай перамогі калгасаў і саўгасаў—ёсьць працяг разгорнутага сацыялістычнага наступленьня ў вёсцы, разгортваньня на больш шырокай аснове барацьбы за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасных мас за сацыялістычнае перавыхаваньне іх, за выхаваньне ў калгаснай масе сацыялістычных адносін да грамадзкай уласнасьці, разгортваньне барацьбы з рэшткамі кулацтва і кулацкім уплывам. У барацьбе за павышэньне ўраджайнасьці, вядучая роля належыць МТС і саўгасам.

Задача павышэньня ўраджайнасьці набывае асаблівае актуальнае значэньне ва ўмовах БССР— рэспублікі, галоўным чынам інтэнсыўных культур.

Кіруючыся ўказаньнямі ЦК УсеКП(б) і ўраду аб тым, каб „пераключыць работу ўсіх партыйна-савецкіх, камсамольскіх, гаспадарчых арганізацый працуючых у галіне сельскае гаспадаркі—у напрамку **павышэньня ўраджайнасьці** па ўсіх бяз выключэньня культурах як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант“, пленум ЦК лічыць, што Наркамзем і яго органы на мясцох да гэтага часу нездавальняюча праводзяць работу па павышэньні ўраджайнасьці, што ў большасьці райпартарганізацыі савецкіх, камсамольскіх арганізацый, прафсаюзных і інш. яшчэ таксама пераважаюць агульныя размовы аб павышэньні ўраджайнасьці і зусім не разгорнута сапраўдная барацьба за вырашэньне гэтай задачы. Пасьпяховае вырашэньне гэтай задачы патрабуе: рашучае палепшаньне кіраўніцтва і плянаваньня сельскай гаспадаркі, пачынаючы ад цэнтральных установ, канчаючы самымі нізавымі зьвеньнямі; аўладаньне агратэхнікай, партыйным актывам, кожным камуністам, камсамольцам, актывістам-калгасьнікам, ударнікам, брыгадзірам, кожным рабочым МТС і саўгасам, рашучага ўмацаваньня раённага зьвяна, удумлівага і ўважлівага падбору раённых кадраў, больш дасканалай іх праверкі, бязьлітаснай барацьбы з малейшымі праяўленьнямі апартуністычнага і кулацкага супраціўленьня, ажыцьцяўленьню мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці, сапраўды рашучага павароту ўсёй КП(б)Б да пытаньня павышэньня ўраджайнасьці і якасьці сельска-гаспадарчай вытворчасьці.

Пасьпяховае вырашэньне задач павышэньня ўраджайнасьці, патрабуе рашучага ўмацаваньня кіраўніцтва ў раёне, куды зараз перанесены цэнтр цяжару калгаснага будаўніцтва. Зараз кіраваць у раёне—гэта перш за ўсё ведаць раён, ведаць калгасы; ведаць людзей у іх, дасканала ведаць усе

асноўныя пытаньні калгаснага будаўніцтва, ведаць усе ўлоўкі і манэўры клясавага ворага, якія пралазіць у калгас. Ад раённага працаўніка асабліва патрабуецца зараз клясавая пільнасьць, пралетарская загартаванасьць, шырокае палітычнае разьвіцьцё і разам з тым веданьне тэхнікі сельскай гаспадаркі.

Пленум ЦК КП(б)Б пастанаўляе:

## I. Аб пасеўных плошчах, забясьпячэньні насеньнем і заданьнях па ўраджайнасьці

1. Устанавіць агульную плошчу пасеву яравога кліну на 1933 год па БССР у 2 мільёна 680 тыс. *га*, у тым ліку збожжавых—1 мільён 365 тыс. *га*, тэхнічных 273 тыс. *га*, бульбы 617 тыс. *га*, і 425 тыс. *га* пад іншыя культуры.

Для забесьпячэньня гэтай плошчы насенным матар'ялам правесьці ссыпку насенных фондаў—збожжавых—120 тысяч тон, ільнанасеньня—18,5 тыс. тон, бульбы—420 тыс. тон. Страхавы фонд па калгасах стварыць у разьмеры 10 проц. ад насенфондаў. Ссыпку насеньня і страхавых фондаў скончыць да 15 студзеня 1933 году.

Даручыць бюро ЦК КП(б)Б у 5-ці дзённы тэрмін зацьвердзіць пляны пасеўных плошчаў па раёнах і сэктарох з тым, каб пляны да калгасаў, саўгасаў, сельсаветаў, паселішч і вытворчых вучасткаў МТС былі даведзены абавязкова не пазьней 1 студзеня 1933 г.

Пры давядзеньні пляну сяўбы лічыць абавязковай умовай шырокае абгаварэньне іх на сходах рабочых саўгасаў, МТС, калгасьнікаў і аднаасобнікаў. Для гэтай мэты бюро ЦК забясьпечыць пасылку адказных упаўнаважаных у раёны, а райкомам—у сельсаветы, калгасы, МТС і саўгасы для ўдзелу ў давядзеньні пляну і дапамогі ў гэтай справе.

2. Даручыць бюро ЦК пры разглядзе другой пяцігодкі ўстанавіць заданьні па павышэньні ўраджайнасьці як на пяцігодку, так і канкрэтныя заданьні для кожнага году. Распрацаваць усе мерапрыемствы, зьвязаныя з гэтым, кіруючыся пры гэтым пастановамі XVII партканфэрэнцыі аб разьвіцьці сельскае гаспадаркі і павышэньні ўраджайнасьці ў другой пяцігодцы.

Устанавіць наступныя мінімальныя заданьні па павышэньні ўраджайнасьці па рэспубліцы на 1933 год: з *га* збожжавых—8,5 цэнтн., бульбы 110 цэнтн. і ільну 3 цэнтн.

Даручыць бюро ЦК КП(б)Б вызначыць разьмеры ўраджайнасьці па сэктарох і культурах для асобных раёнаў у залежнасьці ад ступені калектывізацыі і арганізацыйна-гаспадарчага становішча калгасаў, з улікам эканамічных і глебавых умоў. Абавязаць райкомы КП(б)Б і РВК устанавіць дыфэрэнцыяльныя заданьні павышэньня ўраджаю ў паасобных сельсаветах, саўгасах, МТС, калгасах і паселішчах.

Абавязаць упаўнаважанага Наркамсаўгасаў СССР і Саўгастрэсты давесьці плянавыя заданьні па ўраджаі саўгасам да 1 студзеня 1933 г. Наркамзему давесьці заданьне МТС, калгасам і сельсаветам да 15 студзеня.

Складаньне вытворчых плянаў па ўраджайнасьці і сяўбе не павінна зводзіцца да звычайнага канцэлярскага пераліку гадавых заданьняў. Партыйным і зямельна-калгасным органам неабходна забясьпечыць такі парадак складаньня вытворчых плянаў, каб побач з вызначэньнем вытворчых заданьняў у наступны год былі намечаны (пры непасрэдным удзеле калгаснага актыву, рабочых саўгасаў і МТС, лепшых ударнікаў) практычныя меры па выкананьні заданьняў, як павысіць ўраджай па кожнай культуры, як забясьпечыць барацьбу са стратамі, як павысіць удой і г. д. Вытворчае заданьне павінна зьявіцца баявой праграмай работы ўсіх зямельна-калгасных арганізацый у справе выкананьня дырэктыў партыі аб павышэньні ўраджайнасьці.

## II. Аб арганізацыі веснавой сяўбы

3. Пленум ЦК падкрэсьлівае перад усімі партыйнымі, савецкімі і зямельна-калгаснымі арганізацыямі, што ў выкананьні намечаных канкрэтных заданьняў па павышэньні ўраджайнасьці і плянаў сяўбы выключнае значэньне мае своечасовая і арганізаваная падрыхтоўка і правядзеньне веснавой сяўбы.

У гэтых мэтах неабходна забясьпечыць выкананьне наступных асноўных мерапрыемстваў:

а) Пры стварэньні насенных фондаў выходзіць з таго, што ўстаноўлены плян веснавой сяўбы цалкам і поўнасьцю павінен быць забясьпечан уласнымі насеннымі рэсурсамі данага саўгасу, калгасу і аднаасобнікаў. Адказнасьць за стварэньне і поўнае захаваньне насенных фондаў ускласьці на дырэктароў саўгасаў і ў калгасах—на старшынь калгасаў. Катэгарычна забараніць выдатkаваньне на якія-б там ня было мэты гатунковага насеньня.

б) Пад пэрсанальную адказнасьць дырэктароў саўгасаў і старшынь калгасаў правесьці поўную ачыстку і пераправерку насеньня ў ўстаноўлены Наркамземам тэрмін.

в) Устанавіць абавязковы пасеў ва ўсіх калгасах і саўгасах выключна ачышчаным і адсартаваным насеньнем і на працягу двух-трох год стварыць чыстагатунковыя фонды ў разьмерах, якія забясьпечваюць замену радавога насеньня гатунковым ва ўсіх калгасах і саўгасах.

У адпаведнасьці з гэтым устанавіць плошчу пасеву гатунковым насеньнем на 1933 год збожжавых—23 тыс. *га*, ільну 8 тыс. *га*, бульбы 5 тыс. 500 *га*. Абавязаць Наркамзем устанавіць строгі ўлік пасеву плошчы гатунковага насеньня, арганізаваць пашпартызацыю і належнае захаваньне насеньня. Перабудаваць адпаведным чынам работу сэлекцыйных станцый.

Сканцэнтраваць хаваньне загатаўляемага Насенводсаюзам гатунковага насеньня ў сыстэме Наркамзему.

4. Пленум, надаючы выключна важнае значэньне правядзеньню веснавой сяўбы ў максымальна раньні і ўшчыльнены тэрмін (ад 15 да 20 дзён), даручае Наркамзему ўстанавіць агульна рэспубліканскае заданьне па тэрмінах сяўбы, а таксама па пытаньнях якасьці апрацоўкі глебы (радковы пасеў, угнаеньне, тэрміны і якасьць сяўбы, дагляд пасеву і ўборка) да кожнага саўгасу, МТС, калгасу і сельсавету. Асабліва распрацаваць пры гэтым пытаньне аб доглядзе пасеву тэхнічных, прапашных, бульбы і гародных культур.

Пленум асабліва падкрэсьлівае неабходнасьць карэннага палепшаньня скарыстаньня машыннай тэхнікі ў сельскай гаспадарцы і палепшаньня якасьці апрацоўкі зямлі трактарамі і машынамі, разгарнуўшы рашучую барацьбу супроць рэакцыйных элемэнтаў і дзедаўскіх прывычак, што супраціўляюцца ўкараненьню новых агратэхнічных форм, павышаючых ураджайнасьць саўгасных і калгасных палёў.

5. Пленум дaручае бюро ЦК КП(б)Б распрацаваць рад дадатковых мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці ў раёнах Палесься, улічваючы іх асаблівыя глебавыя і кліматычныя ўмовы.

### III. Аб снабжэньні сродкамі вытворчасьці і падрыхтоўцы с.-г. інвэнтару да веснавой сяўбы

6. Дaручыць СНК у месячны тэрмін разгледзіць усю суму пытаньняў, зьвязаных з фарсаваньнем разьвіцьця вытворчасьці мінэральнага ўгнаеньня з мясцовых сыравых рэсурсаў рэспублікі, у прыватнасьці, вызначыць праграму вырабу фасфарытнай мукі на Крычаўскім фасфарытным заводзе, а таксама ўсе мерапрыемствы, забясьпечваючыя выкананьне гэтай праграмы.

Дaручыць СНК прадугледзіць у 1933 годзе пабудову адпаведнай колькасьці заводаў па вырабу тарфянога падсьцілу.

Вызначыць збор попелу да веснавой сяўбы ў 20 тыс. тон; вапнаваньне плошчы—10 тыс. *га*. Усямерна скарыстаць на ўгнаеньне адкіды прамысловасьці і нячыстоты гарадоў.

Пленум зварачае ўвагу на неабходнасьць значна большага і лепшага скарыстаньня натуральных відаў угнаеньня і ў прыватнасьці максымальнага скарыстаньня гною, які маюць калгасьнікі ў сваім уласным карыстаньні для калгасных палёў.

Паставіць пытаньне перад саюзнымі органамі аб завозе ў БССР да веснавой сяўбы 240 тысяч тон мінэральнага ўгнаеньня. Наркамзему і Белсельгасснабу забясьпечыць завоз мінэральнага ўгнаеньня з такім разьлікам, каб ня менш 70 проц. яго паступіла ў саўгасы і калгасы па саннай дарозе.

7. Надаючы выключнае значэньне лубінізацыі, як сродку павышэньня ўраджайнасьці і пашырэньня кармавой базы—абавязаць Наркамзем, Трактарацэнтр, РК КП(б)Б і РВК поўнасьцю мабілізаваць наяўныя рэсурсы насеньня лубіну з тым, каб у 1933 годзе пасеўную плошчу лубіну давесьці ня менш як да 40 тыс. *га*, з іх 30 тысяч *га* абавязкова для насеньня.

8. Дaручыць СНК у месячны тэрмін вызначыць колькасьць і тэрміны будаўніцтва новых МТС, завоз трактароў, складаных і паўскладаных с/г машын, а таксама завоз і выраб запасных частак да іх на мясцовых заводах.

Абавязаць Наркамзем, Упаўнаркамсаўгасаў, раённыя партыйныя і савецкія арганізацыі правесьці рамонт усіх трактароў і с/г. машын не пазьней 15 сакавіка. Наркамзему і Ўпаўнаркамсаўгасаў устанавіць календарныя заданьні для саўгасаў, МТС, калгасаў і раёну ў адносінах рамонту інвэнтару.

З прычыны таго, што з году ў год расьце тэхнічная ўзброенасьць сельскай гаспадаркі складанымі машынамі, асабліва значэньне набывае ўладаньне машыннай тэхнікай і стварэньне кваліфікаваных кадраў, умеючых карыстацца гэтымі машынамі. Дaручыць бюро ЦК у двухдэкадны тэрмін разглядзець плян падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі такіх кадраў і мерапрыемстваў па тэхпрапагандзе у вёсцы.

9. Пленум падкрэсьлівае, што, ня гледзячы на рашэньні ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаньні аб захаваньні конскай цягавай сілы, фактычна няма пералому ў адносінах да лепшага захаваньня каня, догляду яго і ўмелага злучэньня конскай і мэханічнай цягавай сілы. Пленум даручае СНК у двухдэкадны тэрмін намеціць суму мерапрыемстваў па карэнным паляпшэньні догляду коняй, асабліва ў зімовы пэрыяд. У адносінах да тых раёнаў і арганізацый, якія злачынна ня выконваюць мерапрыемстваў па разьвіцьці і захаваньні пагалоўя прыняць рашучыя меры ўзьдзеяньня.

### IV. Аб устойлівым землякарыстаньні і ўвядзеньні севазваротаў

10. Пленум ЦК КП(б)Б даручае Наркамзему і Упаўнаркамсаўгасаў СССР на працягу 1933 году увесьці ва ўсіх саўгасах і калгасах севазвароты, як адзін з лепшых сродкаў павышэньня ўраджайнасьці, з тым, аднак, каб пры ўвядзеньні севазвароту было забясьпечана выкананьне заданьняў партыі і ўраду па пасеве.

Наркамзему і Ўпаўнаркамсаўгасаў не пазьней 1-га студзеня даць раёнам тыповыя севазвароты ў адпаведнасьці са спэцыялізацыяй саўгасаў і калгасаў.

Лічыць неабходным правесьці ў першай палове студзеня ў раёнах і цэнтры нарады зямельных работнікаў і спэцыялістаў па пытаньні севазвароту.

У мэтах хутчэйшага ўвядзеньня правільных севазваротаў, лічыць неабходным на працягу 1933 г. у саўгасах і 1933-34 г.г. у калгасах правесьці сталае земляўпарадкаваньне, праводзячы яго ў першую чаргу ў раёнах і сельсаветах з большым процантам калектывізацыі.

Дaручыць СНК не пазьней як да 15-га студзеня разглядзець усе пытаньні, выцякаючыя з гэтай пастановы, і прыняць адпаведныя меры, забясьпечваючыя яе выкананьне (арганізацыя, фінансаваньне, кадры і г. д.).

11. Абавязаць Наркамзем, РК КП(б)Б, РВК і зямельныя органы на мясцох правесьці ў жыцьцё пастанову саюзнага ўраду аб ўстойлівым землякарыстаньні, вядучы рашучую барацьбу са скажэньнямі гэтай важнейшай дырэктывы.

(Канец пастановы будзе надрукаваны ў наст. нумары)

**МАЛЕЙШАЕ ПАСЛАБЛЕНЬНЕ БАРАЦЬБЫ З КУЛАКОМ І ЯГО АГЭНТАМІ — ЁСЬЦЬ ЗДРАДА РАБОЧАЙ КЛЯСЕ**

# МНОЖЫЦЬ КАЛЁНЫ ЎДАРНІКАЎ С

**„Рэальнасьць нашай праграмы — гэта жывыя людзі, гэта мы працаваць па-новаму, наша рашымасьць выканаць плян. Значыць, наша вытворчая праграма можа і павінна быць**



тав. ПРАКАПОВІЧ — старшыня калгасу імя „Леніна" Слуцкага раёну. Калгас першым у раёне на 20-X плян збожжа і бульбанарыхтовак выканаў на 108 проц.

т. МАЙСЕЕЎ Н. О. — стары камунар-ударнік камуны „Верны Шлях" Дрысенскага раёну.





Ударніца — даглядчыца цялят калгасу „Чырвоны Партызан" (Крычаўскі р.) т. КАРНЕЕВА

Ударніцы — сьвінаркі калгасу „Чырвоная Слабада" (Чырвона-Слабодзкі р.) — КІРДЗЕЙ Вера і ДРАБАТОВІЧ Зося



**ЗАХАВАНЬНЕ І ВЫРАСЬЛІВАНЬНЕ МАЛАДНЯКА — ГАЛОЎНЕЙШАЯ ЗАДАЧА Ў РАЗЬВІЦЬЦІ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ**

# АЎ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ ПАЛЕЎ

## та мы з вамі, наша воля к працы, наша гатоўнасьць Ці ёсьць у нас яна гэта самая рашымасьць? Так, ёсьць. ажыцьцёўлена“ (СТАЛІН)



тав. МАРОЗ П. С. — стары камунар камуны „Верны Шлях“ Дрысенскага раёну. Працуе кавалём. За ўдарную працу некалькі раз прэміраваны.



тав. ТРАХІМОВІЧ — брыгадзір-ударнік калгасу „Камінтэрн“ Слуцкага раёну.

## На штурм другой пяцігодкі!

*Верш Ал. ПРУДНІКАВА*

Мы выйшлі
ў слаўны
вялікі паход,
Зьмянілі аблічча
старэчай краіны:—
На затхлых абшарах
бязродных балот—
Гамоняць жыты
і сьпяваюць турбіны,
І пеняцца нівы
ў цьвецені буйнай
Бязьмежнай зямлі
ўрадлівых палёў,
Дзе зьвеку спраўлялі
магнаты рабунак
Заплаканых сёлаў
прагоркласьцю сьлёз.
Дзе горбілі сьпіны
за панскаю працай
У муках
і нэндзе,
з відна да відна,
І з кіем праклятьця
ў дарозе жабрацкай
Дачасна жыцьцё
забірала труна, —
Там,
з гордаю песьняй,
рашучай хадой.
Прайшоў пралетары
па трупу старога...
І вырасьлі волаты
мудрых будоў
У агнёх
барацьбы
і жыцьця
маладога!
Праз рэкі,
тунэлі,
мы рэйкі кладзем.
Гудуць
на пад'ёмах
пад грузам
лябёдкі...
І кляса
пад Ленінскім сьцягам
ідзе
На штурмы змаганьня
другой пяцігодкі...
Засеем даліны
яе палатна,
Узаром яе поле
электраплугамі,
І будзе здабудзена
радасьць
для нас,
Для нас,
для саміх,
і сваімі рукамі!
Каб помнік
Кастрычніцкіх
дзён-змаганьняў
Укласьці,
як цэглу,
у гмах стройнай
працы—
І скрозь пераможцамі
выйсьці з баёў
Бясклясавым
нашым
грамадзтвам!
Шчыльней-жа брыгады!
У новы паход!
Каб шлях завяршыць
перамогаю
дружнай...
На штурмы!
На штурмы!
Вялікіх работ,—
Заўзятых
штодзенных,
напружных!
...А там на Заходзе —
і лямант
і крык,
На вісельнях гаснуць
ахвяры фашызму
І ходзіць панура
дзядуля стары,
Як продкі
за сошкай... спрадвеку
хадзілі".
І гнеўнае мора
як лява кіпіць, —
Вось-вось узарвецца
і выбухне
з громам...
Паны і маршалкі,
ксяндзы і папы,
Зьмятуцца з дарогі
як попел старога!
Мы-ж выйшлі
ў слаўны
вялікі паход,
Зьмянілі аблічча
старэчай краіны:—
На затхлых абшарах
бязродных балот
Гамоняць жыты
і сьпяваюць турбіны.

Менск, 1932 г.

**Прывет ударнікам саўгасаў і калгасаў— перадавым змагаром за хлеб, за высокі ураджай.**



тав. КАЗЛОЎСКІ — ударнік калгасу „III Інтэрнацыянал“, (Жлобіншчына) прэміяваны на раённым зьлёце ўдарнікаў.



тав. ІВАНЕНІН—сакратар партячэйкі Гусарскага сельсавету (Клімаўшчына). Ячэйка разгарнула сапраўды бальшавіцкую барацьбу за падвышэньне ўраджайнасьці сацыялістычных палёў. Усе калгасы, што ўваходзяць у поле дзейнасьці ячэйкі, у адказ на пастанову партыі і ураду, вывезьлі на свае палі па 500 і болей вазоў перагною і шыгальля

# ВУЧЫЦЦА Ў ПЕРАДАВІКОЎ

## як змагацца за выкананьне баявога заданьня партыі і ўраду

### Плян выканан да 10 сьнежня

(*Ельскі раён*)

Калгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі Мялешкавіцкага сельсавету добра зразумелі значэньне поўнага і сваячасовага выкананьня плянаў збожжазагатовак.

Па сельскім савеце шырока было разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж калгасамі і аднаасобнікамі. У адзін дзень было арганізавана некалькі чырвоных абозаў са збожжам. З боку калгасьнікаў, працоўных аднаасобнікаў быў дадзен рашучы адпор кулацкім элемэнтам, якія імкнуліся сарваць пасьпяховае выкананьне збожжазагатовак.

У выніку напружанай работы калгасы і аднаасобнікі Мялешкавіцкага сельсавету да 10 сьнежня поўнасьцю выканалі плян збожжазагатовак.

**А. С. П.**

### 207 проц. выкананьня дала Бігосаўшчына

(*Дрысенскі раён*)

Калгасы Дрысенскага раёну на 5 сьнежня поўнасьцю выканалі плян збожжазагатовак. Па калгасах у часе здачы збожжазагатовак партыйнымі, савецкімі і камсамольскімі арганізацыямі шырока была разгорнута растлумачальная работа. Перадавыя калгасы бралі на буксір адстаючых, шырока было разгорнута сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Наперадзе ішлі калгасы Сардыцкага сельсавету, якія выканалі свой гадавы плян на 257 проц.

Не адсталі ад Сардыцкага сельсавету Бігосаўскі сельсавет, які выканаў плян збожжазагатовак на 207 проц., а таксама Цястоўскі, у якім калгасы выканалі плян збожжазагатовак на 142 проц.

**Ф—р.**

### У жорсткай клясавай барацьбе дамагліся перамогі

(*Смалявіцкі раён*)

На 1 сьнежня рад калгасаў Смалявіцкага раёну перавыканалі гадовыя пляны збожжазагатовак.

У часе разгортваньня гэтай кампаніі ўсе партыйныя, савецкія і профсаюзныя арганізацыі раёну былі мабілізаваны ў калгасы для правядзеньня масава-растлумачальнай работы. Калгасьнікі зразумелі значэньне поўнага і сваячасовага выкананьня збожжазагатовак і па-ўдарнаму прыступілі да здачы сваіх збожжавых заданьняў.

У выніку гэтага калгас „Сэмафор“ перавыканаў свой гадовы плян збожжазагатовак на 194 проц.

Калгас „Бальшавік“ таксама ішоў у першых радох збожжазагатовак. На 1 сьнежня гадавы плян выканан на 130 проц.

За гэтымі калгасамі ідуць калгасы: „Новыя ляды“ які выканаў плян на 120 проц., „Парыская камуна“ на 118 проц. і калгас „Новае жыцьцё“—перавыканаў плян на 111 проц.

Гэта дасягнута ў жорсткай клясавай барацьбе з кулацкімі элемэнтамі, у барацьбе са спажывецкімі настроямі адсталай часткі калгасьнікаў.

**Калгасьнік М.**

### Правільнае разьмеркаваньне даходаў выклікала новы прыліў у калгасы

(*Капыльскі раён*)

Некаторыя калгасы Капыльскага раёну ў асноўным разьмеркавалі даход і ўраджай 1932 г. Разьмеркаваньне даходаў выклікала новую хвалю прыліву беднякоў і серадняко-аднаасобнікаў у калгасы.

Пры разьмеркаваньні ўраджаю на працадзень калгасьніка прыпадае 20 фунтаў бульбы, 5 фунтаў жыта і рэштку грошай у залежнасьці ад колькасьці працадзён калгасьніка.

Пытаньне аб папярэднім разьмеркаваньні ўраджаю было абгаворана на агульным сходзе калгасьнікаў сумесна з беднякамі і сераднякамі-аднаасобнікамі.

Уважліва выслухаўшы даклад, бядняк-аднаасобнік падняўся і сказаў:

— За такі калгас і я галасую. Я наяву пераканаўся, што ў калгасе лепей жыць чым мне. Запішы мяне ў калгас.

Пасьля выказаліся яшчэ некалькі калгасьнікаў і аднаасобнікаў. Усе яны гаварылі аб гаспадарчым умацаваньні калгасу. На гэтым-жа сходзе 4 бядняцка-серадняцкія гаспадаркі запісаліся ў калгас.

Па Капыльскім раёне ёсьць цэлы рад фактаў уступленьня ў калгас у сувязі з разьмеркаваньнем ураджаю.

Так, 3 бедпякі падалі заявы аб уступленьні ў нацыянальна-польскі калгас „Зьвязда“, Ланцуцкага сельсавету. Ёсьць прыліў і ў іншыя калгасы Капыльскага раёну, як напрыклад, калгас „Усход“, „Перамога“, „Чырвоная Ніва“, „Красавік“, „Савецкая краіна“ і інш.

Трэба правесьці шырачэйшую масавую палітычную работу вакол размеркаваньня ўраджаю ў калгасах, даказаўшы на канкрэтных паказчыках перавагу калектыўнай гаспадаркі.

**Ц. Макарэвіча.**

## Перамога калгасу „Пяцігодка“

(*Смалявіцкі раён*)

**Дзякуючы напружанай ударнай рабоце калгас „Пяцігодка“ своечасова і поўнасьцю справіўся з усімі гаспадарча-палітычнымі кампаніямі.**

Калгас на 100 проц. выканаў плян. збожжазагатовак, бульбы, тэхкультур. Засыпаны насенныя і страхавыя фонды з 15 проц. павялічэньнем. Закончана поўнасьцю малацьба і апрацоўка ільну і пянькі. Поўнасьцю выканан плян зяблівага ворыва. Пасаджана 10 *га* і абвязана саду. Узьнята балота 2,5 *га* пад агарод. 2 разы хлявы высланы торфам. Заведзена штучнае ўгнаеньне. Пабудавана павець для інвэнтару і памяшканьне для кузьні.

Дзякуючы ўважлівым адносінам да працы калгасьнікаў і некаторым мерапрыемствам па павышэньні ўраджайнасьці калгас у гэтым годзе атрымаў ураджай 10,5 цэнтн. жыта з *га*, пшаніцы 9, аўсу 8,5, бульбы—300, вікі насеннай—6, гароху—5, ільнавалакна—1,5, ячменю —8,5 цэнтнэрзў.

Клясавы вораг—кулак праз сваіх агэнтаў усімі мерамі імкнуўся падарваць пасьпяховую работу калгасу. Але дзякуючы шырока праведзенай рабоце парт'ячэйкай сярод мас калгасьнікаў,—быў дан руйнуючы ўдар кулаку.

**П. К.**



**Механізаваная падача цэглы на 6-павярховую пабудову (дом спецыялістых) у Менску.**

# Усебеларускі сьпіс гонару

## Заносім у сьпіс лепшых змагароў за сацыялістычны ураджай.

(*Працяг. Гл. №№ 22—24 за 1932 г.*)

19) **Калгас „Глуша“**, Бабруйскага раёну, дзякуючы высокаякаснай апрацоўцы глебы, раньніх тэрмінаў сяўбы і прымяненьня ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў—дабіўся значнага павышэньня ўраджайнасьці. Так, у 1931 годзе ураджайнасьць жыта была 8 *цнт* з *га*, бульбы 120 *цнт*, а ў 1932 г. жыта 9,5 *цнт* з *га*, бульбы 160 *цнт* з *га*.

20) **Гародны калгас імя Чырвонай армії**, Віцебскага раёну мае вялікія посьпехі ў павышэньні ўраджайнасьці. У 1932 годзе калгас атрымаў, напрыклад, 250 *цнт* з *га* сталовай морквы, памідор—66 *цнт* з *га*. Павышэньня ўраджайнасьці калгас дабіўся дзякуючы правільнай апрацоўкі глебы, раньніх тэрмінаў сяўбы і поўнага выкарыстаньня на ўгнаеньне гарадзкіх адкідаў.

21) **Калгас „Чырвоны барацьбіт“**, Любаньскага раёну, сапраўды па-бальшавіцку праводзіць барацьбу за сацыялістычны ураджай.

У 1931 г. калгас атрымаў з *га*: жыта—7,5 *цнт*, бульбы—104 *цнт*, ячменю—9 *цнт*, а ў 1932 годзе жыта—10,3 *цнт*, бульбы—142 *цнт* і ячменю 10,5 *цнт* з *га*.

Высокаякасная апрацоўка глебы, своечасовая сяўба, выкарыстаньне ўсіх відаў угнаеньняў, барацьба з стратамі ў час уборкі—вось якімі шляхамі калгас „Чырвоны Барацьбіт“ дабіўся павышэньня ўраджайнасьці.

22) **Саўгас „Падбярэзьзе“**, Віцебскага раёну, дабіўся ў 1932 годзе найвышэйшага ўраджаю па жыту на Віцебшчыне. Саўгас атрымаў 14 *цнт* жыта з гэктара.

23) **Калгас „Пяцігодка“**, Смалявіцкага раёну, атрымаў у 1932 годзе з гэктара ўраджаю: жыта 10,5 *цнт* супроць 1931 году 9 *цнт*, пшаніцы—9 *цнт* супроць 7,5 *цнт* і аўсу 8,5 *цнт* супроць 7 *цнт*, бульбы—300 *цнт* супроць 240 *цнт* у 1931 г.

Гэтага павышэньня ўраджайнасьці калгас „Пяцігодка“ дабіўся дзякуючы правядзенью ўсіх мерапрыемстваў агратэхнікі. Кожная вытворчая брыгада гэтага калгасу па-баявому праводзіць барацьбу за сацыялістычны ўраджай.

24) **Камуна Карла Лібкнехта**, Быхаўскага раёну у 1932 г. дасягнула значнага павышэньня ўраджайнасьці. Так *га* жыта дало 12 *цнт*, бульбы—100—120 *цнт* з *га* і ячменю 10 *цнт*. Гэтых посьпехаў камуна дамаглася дзякуючы прымяненьню ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў. Асобна трэба адзначыць тут—асабліва пільную апрацоўку глебы і ворыва на зяб.

# УДАРНА РЫХТАВАЦЦА ДА ВЯСНЫ!

## Руйнуючы ўдар па апартуністычнай стаўцы на самацёк у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы

## ЗМАГАЦЦА ЗА БАЛЬШАВІЦКІ ПЛЯН КАЛГАСА

Якія-ж асноўныя патрабаваньні павінны быць прад'яўлены да вытворча-фінансавага пляну калгаса на 1933 г.?

Раней за ўсё плян калгаса павінен быць цесна ўвязан з плянам разьвіцьця гаспадаркі раёна, в дзяржаўным плянавым заданьнем. Затым у пляне павінна знайсьці адбітак правільная арганізацыя працы і сродкаў вытворчасьці і іх расстаноўка ў калгасе. У пляне неабходна даць папярэдняе разьмеркаваньне даходаў і запраектаваць ацэнку працадня па калгасе.

У пляне трэба апрадзяліць умовы для разьвіцьця калгаснага гандлю, забясьпечыць дапамогу гаспадарцы, якая знаходзіцца ў індывідуальным карыстаньні калгасьнікаў.

Плян павінен быць кароткі, просты і зразумелы асноўнай масе калгасьнікаў, каб калгасьнікі мелі магчымасьць прыняць шырокі і актыўны ўдзел у прапрацоўцы пляна свайго калгаса.

У пляне ў аснову ўсёй работы калгаса ставяцца якасныя паказчыкі і нормы выпрацоўкі па галінам, распрацаваныя ў калгасе. Галоўнейшыя агрэмерапрыемствы ў пляне павінны быць распрацаваны падрабязна. Асноўнае месца сярод аграмерапрыемстваў неабходна адвесьці севазвароту. Для ўнядрэньня севазвароту ў пляне трэба прадугледзіць парадак перахода да прынятага севазвароту. Па кожным полі і клетцы адзначаюцца папярэднікі і чарадаваньне культур на гады пераходу да правільнага севазвароту. Адным з істотных пытаньняў пры складаньні пляну зьяўляецца ўвязка працы сталых калгасных брыгад з работай трактарнага атраду МТС. У пляне павінны атрымаць поўнае адлюстраваньне работы трактарнага атраду з указаньнем аб'ёму работ па сельска-гаспадарчым кампаніям на працягу году, а таксама і месца работы трактароў.

У вытворчым пляне калгаса павінна знайсьці поўнае адлюстраваньне—сталая вытворчая брыгада і ўсе пытаньні зьвязаныя з ёю. З гэтаю мэтаю асабліва дэталёва павінен быць прапрацаваны асноўны разьдзел—патрэбнасьць у працы, цягавай сіле і інвэнтару па сельска-гаспадарчай кампаніі і культурам. Гэта дасьць магчымасьць правільна падыйсьці да арганізацыі сталых вытворчых брыгад і вызначаньню гадавога вытворчага заданьня кожнай брыгадзе. Вызначанае такім чынам гадавое заданьне кожнай брыгадзе тут у пляне заносіцца ў асобную табліцу, у якой паміма аб'ёму работ брыгадзе вызначаюцца заданьні па ўраджайнасьці, колькасьць працадзён, сталы склад людзей, сродкаў вытворчасьці і інш.



Падвоз торфу з Цнянскага балота на Менскую электрастанцыю

Падрабязныя разьлікі па атрыманаму заданьню вытвараюцца ў гадавым вытворчым заданьні кожнай брыгадзе. Правільная арганізацыя сталых вытворчых брыгад зьяўляецца парукай пасьпяховага выкананьня пляну па калгасу і пастаянства брыгад праз увесь год.

Правільны ўлік патрэбнай рабочай сілы на ўвесь год дасьць магчымасьць правільна арганізаваць адыходніцтва, максымальна аслабаніўшы рабочую сілу для прамысловасьці, саўгасаў, транспарту.

Пасьля складаньня агульнага гадавога пляну калгасу, складаецца гадавое вытворчае заданьне сталай брыгадзе. Атрыманае заданьне брыгада падрабязным чынам разьлічвае па культурам на ўвесь год. На аснове вытворчых разьлікаў апрадзяляецца точны разьмер сталай брыгады і патрэбнасьць у сродках вытворчасьці па кожнай брыгадзе, якія замацоўваюцца за кожнай брыгадай, а ў брыгадзе за калгасьнікамі. У гадавым вытворчым заданьні таксама складаецца сьпіс калгасьнікаў брыгады.

Прапрацоўкай гадавога вытворчага заданьня па брыгадам намячаецца выканаўца па выкананьні ня толькі данага аб'ёма работ, але і ўсіх якасных паказчыкаў.

Нараду з гадавым вытворчым заданьнем на кожны сельска-гаспадарчы парыяд, а магчыма і часьцей складаюцца рабочыя пляны, або дзёньнікі па брыгадам. Рабочы плян утачняе заданьне, выцякаючае з гадавога пляна, у суадпаведнасьці з тэрмінамі работ, намячае канкрэтную расстаноўку людзей і сродкаў у вытворчым заданьні, утачняе тэрміны работ і якасныя паказчыкі. Форма рабочага пляна павінна быць настолькі прастой, каб яе мог запоўніць кожны брыгадзір.

Рабочы плян калгаса зьяўляецца па стварэньні зводным рабочым плянам брыгад і служыць неабходным матар'ялам праўленьню калгаса для кіраўніцтва работай і для кантроля кожнай брыгады па сельска-гаспадарчым кампаніям.

Вялікае значэньне ў выкананьні пляна будзе мець актыўнасьць і шырокі ўдзел саміх калгасьнікаў у прапрацоўцы і выкананьні плянаў. З мэтаю больш шырокага прыцягненьня калгасьнікаў да складаньня плянаў у кожным калгасе неабходна арганізаваць плянавы актыў, плянавыя групы, з якімі правесьці суадпаведную падрыхтоўчую работу па плянаваньні калгаснай вытворчасьці.

Прапрацоўцы плянаў і кантролю выкананьня намечаных мерапрыемстваў, насьценгазэты ў калгасах і калгасныя шматтыражкі павінны аддаць вялікую ўвагу.

Пры прапрацоўцы плянаў на 1933 год павінны быць абагулены і поўнасьцю скарыстаны ўсе дасягненьні асобных калгасаў у плянаваньні калгаснай вытворчасьці і разам з тым рашуча зьнішчаны недахопы, якія меліся ў мінулым годзе.

Вытворча-фінансавы плян калгасу павінен быць цалкам і поўнасьцю пабудаваны на аснове пастановы сьнежаньскага (1932 г.) пленуму ЦК КП(б)Б па пытаньню аб падняцьці ўраджайнасьці і падрыхтоўцы і правядзеньні веснавой сяўбы.

**А. Л**

## „Вясна яшчэ далёка—пасьпеем"

(*Уваравіцкі раён*)

Ня гледзячы на тое, што зямельна-калгасныя органы павінны ў першую чаргу заняцца пытаньнем практычнага ажыцьцяўленьня пастаноў партыі і ўраду аб падняцьці ўраджайнасьці і разгортваньня работ па падрыхтоўцы да веснавой кампаніі,—ва Уваравіцкім раёне гэта забылі.

Насенныя фонды па калгасах і саўгасах раёну яшчэ не засыпаны.

Амаль што ні ў адным калгасе ня маецца гнояхавальнікаў, а пагэтаму гной з абор, сьвінарнікаў, канюшань выкідаецца, як папала кучамі, жывёла яго раскідае нагамі, расьцягваючы па полі.

Толькі ў 2-х калгасах уведзены і распрацаваны севазварот.

Рад партыйных ячэек раёну ў калгасах і саўгасах яшчэ і дагэтуль не прапрацавалі пастанову партыі і ўраду аб мерапрыемствах па падняцьці ўраджайнасьці, яны не мабілізавалі вакол гэтай справы калгасную масу, не аддалі гэтае пытаньне на абгаварэньне шырокай грамадзкасьці, як вын'к гэтага ніхто дагэтуль канкрэтнай справай ураджайнасьц не займаецца. Раённыя зямельныя органы яшчэ дагэтуль ня спусьцілі плянаў і дырэктыў аб падрыхтоўцы да веснавой пасеўкампаніі.

Аграномы і работнікі райза і РКС разважаюць: „вясна яшчэ далёка, а пагэтаму сьпяшацца някуды".

Такім апартуністычным разважаньням трэба даць руйнуючы ўдар.

У раёне ёсьць дастатковая колькасьць аграспэцыялістаў, але-ж работа з аграпрапагандай і разгортваньне гурткоў па аўладаньні агратэхнікай адсутнічае. Ёсьць цэлы рад аграномаў, толькі лічацца на рабоце, а па сутнасьці нічога ня робяць.

Райком КП(б)Б павінен зацікавіцца гэтым пытаньнем. Трэба разбудзіць аграномаў і работнікаў райза, каб ім ня сьнілася... „вясна яшчэ далёка".

**А. Казіміраў.**

## НАСЕННЫЯ ФОНДЫ ЗАСЫПАЦЬ У ТЭРМІН

Засыпка насенных і страхавых фондаў па калгасах Ветрынскай МТС, Полацкага раёну, у поўным разгары. Калгасы „Чырвоны Молат", „МОПР", „Мялешка" і інш. зараз-жа пасьля выкананьня хлебазагатовак распачалі засыпку насенных фондаў.

Вытворчая частка МТС давяла пляны засыпкі да кожнага калгасу яшчэ ў пачатку кастрычніка. Вылучаны адказныя за становішча і захаваньне насеньнікаў у калгасах. Разам з гэтым па цэлым радзе калгасаў страхавыя фонды мінулых гадоў часткай разьмеркаваны, часткай скарыстаны на іншыя патрэбы. З боку райкалгассаюзу і МТС даны паказаньні аб парадку аднаўленьня засыпкі пазык насенна-страхавых фондаў.

Для 100 проц. выкананьня вытворчых плянаў праведзена вялікая барацьба са стратамі, як пры ўборцы, таксама і захаваньні збожжа і бульбы.

Дзякуючы таму, што калгасы змагаліся за якасьць апрацоўкі глебы пад пасевы, значна павысіўся ураджай як збожжа, таксама і бульбы.

**Гур.**



Работа матарызаванай сіласарэзкі ў учхозе „Лужесна" на Віцебшчыне.

# За эканомнае выдаткаваньне кармоў

## Правільнае кармленьне і ўтрыманьне буйнай рагатай жывёлы

XVII партканфэрэнцыя паставіла перад калгасамі і саўгасамі задачу: „У галіне жывёлагадоўлі ў другой пяцігодцы дабіцца такога павялічэньня стада і росту таварнай прадукцыі, якое-б адпавядала вырашэньню ў асноўным жывёлагадоўчай праблемы для СССР, як гэта партыя дабілася ў першую пяцігодку ў адносінах да збожжавай праблемы“.

Да вырашэньня гэтай задачы саўгасы і калгасы павінны падыйсьці з усёй уважлівасьцю, з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю. Канкрэтныя мерапрыемствы павінны ісьці наступным шляхам.

Забясьпечыць жывёлу адпаведным памяшканьнем. Будаўніцтва і рамонт скончыць у самым хуткім часе. Прыстасаваць памяшканьні так, каб яны былі цёплымі, сьветлымі, чыстымі і добра праветрываемымі і абавязкова з кармушкамі.

Кожная гаспадарка першым чынам павінна ўлічыць свае кармавыя рэсурсы і злажыць кармавы балянс, згодна колькасьці жывёлы, прадукцыйнасьці і жывой вагі. Патрэбныя кармы выдаваць для кармленьня жывёле не на-вока, а строга па вазе. Ніводнага кілё сена, саломы і іншых кармоў не павінна прапасьці дарэмна. Раструску пры падвозцы і раздачы скараціць да мінімуму.

Неабходна ня толькі ведаць, колькасьць у наяўнасьці кармоў, але і іх якасьць і здольнасьць да захаваньня, каб правільна ўстанавіць скарыстаньне іх. Калі кармы да гэтага часу знаходзяцца засьціртаванымі на полі, неабходна падвозіць іх на тэрыторыю гаспадаркі з такім разьлікам, каб запас быў ня менш, чым на 2 тыдні, на ўсякі выпадак дрэннай пагоды, сьнежных заносаў і інш.

Згодна кармавога балянсу гаспадаркі намеціць плян скарыстаньня кармоў на зіму. У першую чаргу скармліваюцца прадукты, што хутка псуюцца (турнэпс і г. д.) Скарыстаньне кармоў павінна быць разнастайным як у сэнсе чарадаваньня кармоў, так і складу спажыўнай каштоўнасьці кармовай дачы. Лепшыя кармы трэба застаўляць на час ацёлу кароў, бо на гэты момант неабходна і лепшае кармленьне. Зараз-жа стварыць непарушныя фонды для кармленьня маладняку. Свaячасова ўскрыць сіласныя ўстаноўкі.

Недапусьціць памылак 1932 г., калі некаторыя гаспадаркі, ня гледзячы на адсутнасьць кармоў, адклалі ўскрыцьце ям да мая месяцу, у выніку чаго сілас застаўся невыкарыстаным і выкінутым у гной. Трэба лічыць, што 1 куб. *м* сіласу важыць 0,6—0,7 *т* і з гэтага разьліку выходзіць для вылічэньня яго расходваньня.

Праверку выкананьня пляпаў скарыстаньня кармоў вытвараць кожны месяц, каб ня было такога зьявішча, што з восені жывёла корміцца ўвалю і толькі тады пачынаюць эканоміць, калі бачуць недахоп кармоў. Захаваньне і скарыстаньне кармоў паставіць пад грамадзкі кантроль.

Трэба выкараніць тую ўстаноўку, па якой усе горшыя рабочыя пасылаліся на скотны двор. Абязьлічку пры кармленьні і доглядзе ліквідаваць поўнасьцю.

Каровы не павінны карміцца аднолькава на-вока, а ў адпаведнасьці прадукцыйнасьці, жывой вагі і ўзросту. Усе саўгасы і МТФ павінны весьці штодзённыя запісы ўдояў. Для іншых гаспадарак магчыма дапусьціць кантрольныя ўдоі адзін раз у 10 дзён: 4, 15 і 25 ліку кожнага месяца. Без запісу ўдояў немагчыма ведаць прадукцыйнасьць і немагчыма правільна карміць.

Жывая вага кароў павінна вызначацца 2 разы ў год: увосень пры пастаноўцы ў стойла і вясной пры выгане на пашу. Саўгасы, а дзе магчыма і МТФ павінны рабіць аналіз малака, так як на больш тлустае малако патрэбна і больш кармовых адзінак і бялка.

У аснову кармленьня трэба пакласьці нормы, якія прыняты Ўсесаюзнай нарадай пры ВІЖ, што адбылася ў Маскве, у маі месяцы г. г. нормы наступныя:

| Падтрымліваючы корм: | | | Прадукц. корм: на 1 *кг* малака | | |
|---|---|---|---|---|---|
| жыв. ваг. | карм. адз. | бялку | % тлуст. | карм. адз. | бялку (*гр*) |
| 300 | 3,3 | —0,19 | 3,0 | —0,42 | 42 |
| 350 | 3.7 | —0.21 | 3,5 | —0,45 | 45 |
| 400 | 4,0 | —0,23 | 4,0 | —0,48 | 48 |
| 450 | 4,3 | —0,24 | 4,5 | —0,52 | 52 |

Першацёлкам і другацёлкам зьверх гэтых норм трэба даваць на рост ад 1,2—0,8 кармавых адзінкі і 120—80 *гр* бялка. У час сухастою карову трэба падрыхтаваць да ацёлу, даць надбаўку на цёлка і раздой у пасьледуючую лактацыю. Толькі карова, падпраўленая ў цеде, пасьля ацёлу будзе ўвесь прадукцыйны корм пераводзіць у малако. Нармальны сухастой працягваецца ад 2 да 2,5 месяцаў. За гэты тэрмін карова павінна атрымаць зьверх падтрымліваючага корму 10 проц. спажыўнай матэрыі ад таго ўдою, які мы мяркуем атрымаць ад яе ў наступную лактацыю. Арыентыровачна гадавы ўдой вылічваецца такім чынам: бярэцца найвышэйшы



Механізаваная падача кармоў у сьвінарнік (саўгас імя Крупскай, Менскі р-н).

ўдой папярэдняй лактацыі (сярэдняе за 7—10 дзён) і памнажаецца на 200. Ад атрыманай колькасьці вылічваецца 10 проц. І на гэта малако робіцца разьлік кармавых адзінак і бялку, якія падзяляюцца на лік дзён сухастою. Толькі апошнія 10 дзён перад ацёлам, каровы кормяцца адным добрым сенам.

Пераводзіць карову пасьля ацёлу на поўны рацыён трэба паступова на праця́гу 10 дзён. Пры нармальным кармленьні жывёлы нормы дойным каровам складаюцца на вышэйшы ўдой за апошніх 10 дзён. Калі кармленьне была скуднае, трэба даваць лішніх 1—2 кармавую адзінку на раздой. Бялок малака выпрацоўваецца з бялку корма і недастатковая колькасьць яго ў корме выклікае недадачу прадукцыйнасьці, а таму ў рацыён трэба ўвадзіць канцэнтраты і сілас бабовых, які замянае частку моцнага корму.

Нельга дапускаць падзеньня ўдою ад недакорму, так як васстанавіць потым вельмі цяжка, а часамі і немагчыма. Каровы, якія выдаюцца па сваім удоям—рэкардысткі павінны быць вылучаны ў асобную групу і пастаўлены ў лепшыя ўмовы кармленьня і ўтрыманьня. Кожная гаспадарка павінна ведаць сваіх рэкардыстак.

У корм скату неабходна ўводзіць мінэральныя солі: павараную соль і крэйду. Паваранная соль задаецца па 30—40 *гр*, а крэйда па 50 *гр* у суткі. Мінэральныя солі задаюцца з канцэнтратамі. Крэйдай пажадана пасыпаць сілас пры задачы ў кармушкі.

Не дапускаць скармліваць жывёле гнілы, заплесьнявелы, і забруджаны корм. Мёрзлы сілас і другія мёрзлыя кармы задаюцца пасьля іх адтайваньня, для чаго яны падвозяцца за суткі раней да раздачы.

Кармленьне малочнай жывёлы вытвараецца ў строга вызначаны час, пасьля таго як закончана даеньне і малако ўнесена з скотнага двара. Сутачная кармавая дача: сена, саломы, караньплодаў і канцэнтратаў задаецца два разы ў дзень: раніцай і ўвечары. Сілас задаецца ўдзень пасьля дойкі, які падвозіцца на скотны двор перад самай раздачай непасрэдна з сіласнай устаноўкі.

Кармы задаюцца ў наступным парадку: спачатку канцэнтраты, потым сакавітыя і грубыя. Неабходна сачыць за паяданьнем і ў выпадку непаеданьня высьвятляць прычыны і ўстраняць іх. Складзены рацыён выпісваецца на дошку супроць стойла кожнай каровы, каб раздатчыкі кармоў змаглі беспамылкова выдаць жывёле яе норму. Трэба рабіць такім чынам, што рэгуляваньне дачы вытвараецца адзін раз у дзень, а астатнія кармежкі даюцца ўсім каровам пароўну. У такіх выпадках на раздатачную дошку магчыма выпісаць толькі тую дачу, якой рэгулюецца норма.

Колькасьць кармоў, адпускаемых штодзённа на скотны двор, павінна адпавядаць строга ўстаноўленай колькасьці расходу кармоў па складзеным рацыёнам. Разьмеркаваньне паміж асобнымі каровамі вытвараецца такім чынам: канцэнтраты разьмяркоўваюцца мерамі, альбо простымі скрынкамі з дрэва. Караньплоды і сілас раздаюцца вёдрамі, умясьцімасьць якіх павінна быць вывешана раней. Грубы корм раздаецца ахапкамі, пры чым вопытныя раздатчыкі досыць дасканальна бяруць дачу. Раздача з віл зусім забараняецца.

Пры скармліваньні азімай саломай і гуменных адкідаў належыць прымяняць усе мэтады апрацоўкі іх: рэзку, запараваньне, саманаграваньне, сіласаваньне, паявлічваючыя смак, спажыўнасьць і пераўлаўленасьць. Паеньне ўтвараецца два разы ў дзень пасьля задачы грубага корму, чыстай вадой, тэмпэратурай 7—8° у дастатковай колькасьці. Ня менш трох дзён пасьля ацёлу каровы пояцца летняй вадой.

Каровы з дзённым удоем 7—8 літраў трэба даіць два—тры разы. З большым удоем і новацельных абавязкова тры разы. Неабходна зьвярнуць увагу на тэхніку даеньня, што мае ўплыў на прадукцыйнасьць. Вымя і саскі трэба трымаць у чыстаце, падмываць іх перад даеньнем і выціраць ручніком. Першыя цуркі малака здаіваць на падлогу. Абавязкова ўводзіць праверку на чыстату даеньня, так як апошнія струйкі самыя тлустыя. Праверку чыстаты даеньня вытварае сыстэматычна старшая даярка.

Штодзённа жывёлу трэба выганяць на сьвежае паветра на 1,5—2 гадзіны, для чаго каля скотнага двару адгарадзіць загон. Не выганяецца жывёла толькі ў дажджы, мяцелі і наогул дрэннае надвор'е. Сьвежае паветра садзейнічае лепшаму становішчу жывёлы і зьяўляецца ворагам такіх хвароб, як тубэркулёз.

Жывёла павінна трымацца ў чыстаце, штодзённа чысьціцца шчоткай і скрабніцай.

Западозраныя ў хваробе жывёлы неадкладна выводзяцца з скотнага двара ў ізалятар.

У кожнай гаспадарцы павінна быць радзільнае аддзяленьне, куды зьмяшчаюцца каровы, блізкія да ацёлу і дзе ім аказваецца адпаведная дапамога і лепшы догляд пасьля ацёлу.

Пры кармленьні кароў адкідамі тэхвытворчасьці (мязгой і бардой), трэба сачыць каб гэтыя кармы скарыстоўваліся ў сьвежым, незакіслым выглядзе, зараз-жа пасьля выхаду з заводу і падвозкі іх на скотны двор. Кармушкі і пасудзіна, у якой яны падвозяцца да скотнага двара павінны вымывацца кожныя 5 дзён з прыбаўкай вапны, каб унікнуць закісаньня.

Сярэдняя норма мязгі 20—25 *кг*, барды 2—3 вядры. Калі гаспадарка ня можа поўнасьцю скарыстаць мязгу і брагу ў сьвежым выглядзе, яна павінна сіласаваць іх з прыбаўкай гуменных кармоў, альбо ў чыстым выглядзе.

Усі гэтыя мерапрыемства павінны праводзіцца з дзелам усёй грамадзкасьці саўгасаў і калгасаў, партыйных і профсаюзных арганізацый. Простое адміністраваньне не дапаможа справе. Кожны рабочы павінен быць зацікаўлен у павышэньні прадукцыйнасьці жывёлы, павінен быць пераведзен на рэйкі зьдзельнай аплаты працы.

Шэсьць гістарычных умоў тав. Сталіна, якія зьяўляюцца асновай сацыялістычнай арганізацыі працы, дапамогуць паставіць справу сацжывёлагадоўлі на належную вышыню.

**Капусьціна.**

